


# DISTRICTUS ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№3(7) САКАВІК 2002 г.


## 25 сакавіка - дзень Беларускай Народнай Рэспублікі

Раней ці пазней 25 сакавіка будзе афіцыйным дзяржаўным святам, адзначанным чырванню на белым лістку календара. Гэта дзень калі была прадпрынята спроба ўтварыць незалежную беларускую дзяржаву. 25 сакавіка Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў 3-й Устаўной грамаце абвясціла пра аддзяленне Беларусі ад Расіі і ўтварэнне вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

25 сакавіка – дзень адліку дзяржаўнасці Беларусі ў найноўшай гісторыі. За гэтым актам стаіць напружаная праца дзеячоў беларускага Адраджэння, усіх свядомых беларусаў. Рэалізацыя ідэалаў 25 сакавіка працягваецца. Яна таксама патрабуе самаахвярнай працы. Гэты нумар "Павета" прысвечаны людзям, жыццё якіх – прыклад служэння сваёй Бацькаўшчыне. Усе яны так ці інакш звязаны з нашым Браслаўска-Дзісенскім рэгіёнам. Такіх гістарычных постацей – дзесяткі, і нам было вельмі цяжка абмежавацца толькі некалькімі. Іх жыццё застаецца прыкладам для ўсіх, хто змагаецца за шчасце і будучыню Беларусі.

### Дваццаць пятага сакавіка

*Дваццаць пятага сакавіка –*
*Годны дзень*
*Беларускай дзяржавы.*
*Веснаплынных вятроў талака*
*Пыл з кароны атрэсла іржавы.*
*Шматавалі нас досыць арлы*
*І з адной і з дзвюма галавамі.*
*Мы не з нейкай бязроднай імглы,*
*Нас вякі як сваіх*
*Гадавалі.*
*Мы – ратаі святла,*
*Крывічы,*
*Верхачы неўміручай Пагоні.*
*Маладзік сакалом на плячы,*
*Гартны меч у цвярдое далоні.*
*Лучыць нашыя мары рака*
*Бел-чырвона-белага сцяга.*
*Дваццаць пятага сакавіка –*
*Наша свята,*
*Пароль*
*І прысяга!*

*Рыгор Барадулін*




Паштоўка «Гербы беларускіх ваяводстваў БНР». Выданне «Таварыства імя Ф.Скарыны». Аддрукавана ў Берліне. 1918 г.

# ВЕСТКІ

Кіраўнік краязнаўчага гуртка Дрысвяцкай СШ "Крынічка", адзін з лідэраў школьнага краязнаўчага руху Браслаўшчыны Эма Шавэла адзначана высокай урадавай узнагародай за педагагічную дзейнасць. На пачатку 2002 г. у Доме ўраду ёй была ўручана падзяка і каштоўны падарунак. "Павет" далучаецца да віншаванняў і жадае Эме Шавэла поспехаў у працы.



Былое мястэчка Дрысвяты ўзгадваецца ў пісьмовых крыніцах у 1402 г. Краязнаўцы Дрысвяцкай школы сумесна з работнікамі культуры вёскі вырашылі ў красавіку правесці шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных 600 годдзю паселішча. Іх мэта – нагадаць аднавяскоўцам пра багатую гістарычную спадчыну Дрысвятаў.



У выставачнай зале Музея традыцыйнай культуры пачала працаваць выстава фларыстыкі "З каханнем да Вас", прымеркаваная да жаночага дню. Аўтары кветкавых кампазіцый – жанчыны, жыхаркі Браслаўшчыны: Тамара Ундруль, Надзея Яроцкая, Зоя Зінюк, Ганна Прошка, Людміла Бакуновіч, Святлана Патроцына, Элеанора Зінкевіч, Людміла Пупіна.

*25 сакавіка - дзень БНР*

# СЛОВА ПРА БАЦЬКУ

## (Мар"ян Пецюкевіч. 1904–1983)

*Мой бацька ў апошнія гады свайго жыцьця няраз выказваў жаданьне, каб пасьля сьмерці яго пахавалі "дзесьці непадалёк ад Беларусі", бо па сямейных абставінах жыў ён і працаваў у Торуні ў Польшчы. Бацька марыў пра тое, што на магілу ягоную будуць прыляталь салоўкі з родных лясоў. Ягонае замілаваньне Беларусьсю было татальнае, ахвярнае, безумоўнае. У кожнай хвілі ён гатовы быў аддаць сваё жыцьцё за каханую ім Радзіму. А пакуты ягоныя пасьля вяртаньня са сталінскіх лягероў, куды ён патрапіў праз "беларускую справу" (як гэта мовілі ў нашай сям'і), — перасягалі ўсе межы. Перад сьмерцю ён ужо ня мог ні пра што іншае казаць, як толькі пра Беларусь, пра ейныя мучэньні. Штодзённа маліўся за яе з маленькай кніжачкі да набажэнства, выдадзенай у беларускай мове ў Рыме праз такога самага гарачага патрыёта, ксяндза Пятра Татарыновіча, аддаваў свае найлепшыя думкі й памкненьні, а перадусім свой талент навукоўца-этнографа й публіцыста ўлюбёнай Краіне. Блізкім і нават староньнім людзям імкнуўся перадаць сваю пашану, закаханасьць і разуменьне Беларусі, пасеяць у сэрцах перакананьне, што Айчына адродзіцца, што зьявіцца на мапе сьвету як незалежная краіна, што над цярплівым, працавітым, справядлівым і шчыра залатым Народам апякуецца Бог і што Ён не дазволіць зьнішчэньня й цалкавітага этнічнага людабойства й культурнага выраджэньня беларусаў. Бацька прагнуў яшчэ пры жыцьці ўбачыць уцелясьненьне сваіх ідэалаў, хацеў, каб ахвяры тысячаў Праведных, закатаваных ленінска-сталінскаю сыстэмаю, далі канкрэтны плён, каб на крыві патрыётаў узрасла самаісная, сувэрэнная, маральна адроджаная Беларусь...*



П.Сергіевіч. Партрэт Мар'яна Пецюкевіча

**Марыля Пецюкевіч**

*З кнігі ўспамінаў М.Пецюкевіча "У пошуках зачараваных скарбаў". Вільня, 1998.*

# Прыватная школа ў Барадзенічах

Была гэта, здаецца, восень 1917-га й зіма зь вясною 1917-18 школьнага году. У гэтым часе вялікіх гістарычных падзеяў на абшары ведамых мне паветаў не было нармальных дзяржаўных школаў. Навучаньне грамаце спантанічна арганізоўвалася самым насельніцтвам, а ініцыятарамі гэтай акцыі была мясцовая, вясковая інтэлігенцыя ды розныя адукаваныя асобы, якіх лёс закінуў сюды на часовае жыхарства.

Барадзеніцкую прыватную школу зарганізаваў у парахвіяльным доме малады ксёндз-беларус Віктар Шутовіч, родам зь вёскі Шутовічы былога Ашмянскага павету. Сам ён толькі вучыў закон Божы каталікоў і праваслаўных, якія заставаліся на ягоных лекцыях. Заняткі адбываліся ў беларускай мове, што не падабалася шляхтунам і адурманеным польскасьцяй беларусам-католікам. Прыяжджаў у гэтую школу (праўда, даволі рэдка) на закон Божы й праваслаўны сьвятар зь мястэчка Ёды а.Рафаловіч, беларус, здаецца таксама ашмянчук. Іншыя прадметы, у тым ліку й мовы, г.зн. беларускую й польскаю, вучыла пляменьніца ксяндза Шутовіча, і дзьве паненкі з маёнтку Мількі, якія часова жылі тут у сваякоў. Усе тры настаўніцы былі кваліфікаванымі пэдагогамі й таму дасягаліся не благія вынікі, хоць і ў ненармальнай школе, дзе не было ані адпаведных падручнікаў, ані пэдагагічных дапаможнікаў.

Навука ў гэтай школе была платная, але таму, што гэтымі ненармальнымі гадамі стабілізацыі на грошы не было, яны практычна ня мелі ніякага значэньня. Грошы замяняліся прадуктамі харчаваньня. У практыцы гандлёвай гэта быў так званы тавараабмен, або, як яго жартаўліва называлі, тавараабман. Рамесьнікам за працу таксама плацілася харчовымі прадуктамі. Значыцца, і нашыя бацькі плацілі настаўнікам харчамі, хто чым мог і колькі мог, а хто ня мог плаціць, таго дзеці вучыліся бясплатна.

Вэрця – так яе ўсе называлі – Шутавічанка вучыла беларускай мовы, а калі выкладала іншыя прадметы, дык таксама па-беларуску. Паненкі Гэлена й Ядвіга Еднашэўскія ўсе прадметы, якія да іх належылі, вялі па-польску, але вельмі прыхільна ставіліся да беларускай дзетвары й да нашай мовы. Нават самі прабавалі ўжываць краёвыя слоўцы. Інж.Рашкэ вучыў нас і размаўляў па-расейску, а ягоная жонка гутарыла з намі толькі па-польску. Яны засталіся ў маёй памяці назаўсёды, як вельмі мілыя, сымпатычныя й горам прыгнечаныя людзі...

*З кнігі ўспамінаў М.Пецюкевіча "У пошуках зачараваных скарбаў". Вільня, 1998.*

# ДОЙЛІД АДРАДЖЭННЯ

25 сакавіка - дзень БНР



***Прозвішча Міхася Ткачова (10.03.1942 г. — 31.10.1992 г.) без сумненняў можна ўключыць у спіс выдатнейшых асоб Беларусі. Гэта быў знакаміты гісторык, археолаг, грамадскі дзеяч, энцыклапедыст. У сакавіцкія дні бягучага года яму споўнілася б 60 гадоў, у кастрычніку 2002 года будзе 10 гадоў, як Міхась Ткачоў пайшоў ад нас. У жалобныя хвіліны развітання з верным сынам Беларусі Васіль Быкаў напісаў: "Горкі, але і шчаслівы лёс гэткіх людзей. Горкі — бо пры жыцці яны мала спазналі ягонай слодычы, болей горычы ды няўдзячнасці сучаснікаў, шчаслівы — бо менавіта яны распачынаюць святую справу барацьбы за Волю, Праўду, за светлую будучыню сваёй нацыі. Яны назаўсёды ўваходзяць у яе гісторыю і пасля зямнога пачынаюць новае існаванне ў сферы яе духоўнасці."***

***У сваёй працы і дзейнасці Міхась Ткачоў быў звязаны і з Браслаўскай зямлёй. Ён праводзіў даследванні Друйскага і Іказненскага замкаў, аказаў дапамогу ў падрыхтоўцы экспазіцыі гісторыка-краязнаўчага музея, быў адным з арганізатараў і натхняльнікаў канферэнцыі "Браслаўскія чытанні".***

***У 1989 г. па просьбе музея Міхась Ткачоў арганізаваў экспедыцыю па даследванню гарадзішча Замкавая Гара ў Браславе. У вольны ад раскопак час М.Ткачоў шмат пісаў. У Браславе ён заканчваў артыкул для газеты "Советская Белоруссия", які называўся "Народ і гісторыя: нацыянальныя сімвалы", прысвечаны старажытнаму гербу "Пагоня" і бел-чырвона-беламу сцягу. Неяк у нас нарадзілася ідэя прапанаваць артыкул "Браслаўскай звяздзе". Рэдакцыя ўзялася за публікацыю. У двух нумарах, за 28 ліпеня і 1 жніўня 1989 г. з'явіўся артыкул М.Ткачова, з якога жыхары Браслаўшчыны бадай ці не ўпершыню маглі пачуць праўдзівае слова гісторыка аб старажытных сімвалах Бацькаўшчыны, якім у 1991 г. прадстаяла імклівае, але, на жаль, кароткае адраджэнне. Газета не паспела надрукаваць увесь артыкул, бо райкам партыі забараніў публікацыю. Рэдактар А.Карэнька меў непрыемнасці (газета "Советская Белоруссия" надрукавала матэрыял М.Ткачова 12.12.1989 г.).***

***У музеі застаўся рукапіс артыкула і зараз мы хацелі б прапанаваць увазе чытача ўрыўкі з другой, ненадрукаванай, часткі працы М.Ткачова, якая ў асноўным датычыцца гісторыі бел-чырвона-белага сцяга.***

***Мы шчыра верым, што высілкі такіх дойлідаў Адраджэння, як Міхась Ткачоў, не пройдуць марна, што Беларусь вернецца на цывілізаваны шлях развіцця пад сваімі спрадвечнымі гістарычнымі сімваламі.***

  

## Міхась Ткачоў. Народ і гісторыя: нацыянальныя сімвалы

...З моманта з'яўлення агульнадзяржаўнага герба ўвайшоў ва ўжыванне і дзяржаўны сцяг Вялікага княства Літоўскага. Як сведчаць дакументы, у XVI ст. ён меў выгляд сцяга з барвовай або чырвонай "кітайкі" – шоўка, даўжынёй 60 локцяў. На ім была вышыта выява "Пагоні" і Маці Божай з немаўляці, што адыгрывала вялікае ідэалагічнае заначэнне, паколькі ўсе ратаборцы былі хрысціянамі. Трэба сказаць, што з баявым клічам "Маці Божая! Дапамагай!" войска тады хадзіла ў атаку. Баявы вокліч "ура!" яшчэ не ўжываўся.

Згодна з правіламі тагачаснай еўрапейскай геральдыкі і з улікам старых народных традыцый, герб і сцяг беларуска-літоўскай дзяржавы мелі дакладна канкрэтныя колеры. Так герб меў выгляд шчыта барвовага колера з выяўленай на ім белай пагоні. Барвовы колер лічыўся найлепшым з колераў. Насіць такое адзенне маглі толькі каралі і вялікія князі. Такі колер сімвалізаваў таксама агонь, адвагу, ваяўнічасць, храбрасць, доблесць.

Белы колер, адпавядаючы ў геральдыцы срэбру, азначаў у нашых продкаў дабрыню, ваду, чысціню, непадначаленасць.

Яшчэ адзін элемент герба - шасціканцовы крыж на шчыце вершніка, які меў выяву залатога. Золата сімвалізуе свет, а сярод дабротаў духоўных - высакароднасць, бадзёрасць, надзею, узвышанасць.

Калі пачынаеш аналізаваць колеравую гаму нашай старажытнай нацыянальнай сімволікі, нявольна пранікаешся глыбейшай павагай да тых далёкіх нашчадкаў, якія ў сімвалах і колерах абудзжалі ў сваіх сучаснікаў найлепшыя чалавечыя і грамадзянскія пачуцці. Усё гэта адрасавана і нам, у сённяшні дзень.

З сярэдзіны XVI ст., як і па ўсёй Еўропе, на Беларусі і ў Літве сталі ўваходзіць ва ўжытак сцягі без "Пагоні" і вобраза Маці Божай. Аднак яны былі звязаны з гербам сваімі колерамі. Так узнік двухколерны сцяг. У гэтых колерах першынстваваў колер герба. У нашым выпадку – гэта белаяснежная "Пагоня". Яе колер стаў асноўным фонам палотнішча сцяга, пасярод якога праходзіла гарызантальная барвовая паласа – колер геральдычнага шчыта. Узнікла трохпалоснае спалучэнне: бел-чырвона-белага колераў. Упершыню трохпалосны сцяг паказаў на гравюры 1551 г. у сваёй "Хроніцы" М.Бельскі.

У гэты ж час з'яўляецца бела-чырвоны польскі сцяг.

Пасля Люблінскай уніі 1569 г. узнікла федэратыўная дзяржава з Польшчы і Вялікага княства Літоўскага – Рэч Паспалітая з адзіным выбарным каралём (ён жа адначасова і вялікі князь літоўскі). З'яўляюцца першыя спробы аб'яднаць абодва сцягі ў адзін, тым больш, што ў аснове ляжалі два аднолькавых колеры. І вось у 1605 г. кароль Жыгімонт Ваза ўжыў сцяг трохпалосны: чырвона-бела-чырвоны з гербамі пасярод. З таго ж XVII ст. выходзіць чатырохколерны сцяг: бел-чырвона-бела-чырвонае. Тут відаць найбольш дакладная спроба злучэння сцягоў адной і другой дзяржавы, сяброў федэрацыі. Але такі

колеравы сімвал доўга не пратрымаўся і ў хуткім часе кожны з удзельнікаў Рэчы Паспалітай перайшоў да свайго сцяга...

...Неабходна звярнуць увагу на сувязь з гербам "Пагоня" і бел-чырвона-белым сцягам сімволікі праваслаўнай царквы на Беларусі і Украіне. Гэта бел-чырвона-белая стужка, што ўключалася ў склад адзення першасвятароў. Яна тлумачылася дваяк: як знак патрыяршай улады і як сімвал настаўніцкай місіі Ісуса Хрыста на зямлі, што ён передаў сваім вучням. Белай, чыстай лічылася душа верніка, а чырвоная паласа атаясамлялася з вогненнай праўдай слова Бога, што была прачэрчана ў гэтай душы.

З канца XVIII ст. і да 1863 г. не магло нават узнікаць размовы пра выкарыстанне на Беларусі яе старажытных сімвалаў. Хаця "Пагоня" ўвайшла ў гербы некаторых беларускіх гарадоў, атрыманых ад царскай ласкі. Само ўпамінанне Беларусі і яе назвы ў 1843 г. было забаронена Мікалаем І.

І толькі паўстанне 1863 г. пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага вярнула да жыцця гэтыя сімвалы. Вядома, што напачатку паў-станцы дзейнічалі пад польскім сцягам з двума гербамі – арлом і "Пагоняй". Аднак пасля разрыва з "белымі" удзельнікамі паўстання, К.Каліноўскі стварае новую пячатку для рэвалюцыйнай арганізацыі "Камітэт, што кіруе Літвой" з выявай толькі "Пагоні". Адначасова ён адмаўляецца і ад польскага сцяга. І тут паўстае пытанне: якім жа сцягам сталі карыстацца паўстанцы? Мы выказваем меркаванне, што К.Каліноўскі як патрыёт сваёй зямлі, як высокаадукаваны чалавек, не мог не звярнуцца да старажытнага, г.зн. бел-чырвона-белага сцяга. Дакументы пра гэта маўчаць. Але нашу думку ўскосна пацвярджаюць некаторыя факты. Вядома, што ў 1870 г. узнікла Тэрбскае студэнцкае братэрства младалатышоў, якое абмяркоўвала будучае Латвіі і вырашала пытанне пра нацыянальны сцяг. Было прапанавана разгледзець і варыянт бел-чырвона-белага сцяга. Аднак ад яго ў хуткім часе адмовіліся, бо "...у такой камбінацыі ён супадаў са сцягам беларусаў..." У выніку младалатышы спыніліся на спалучэнні чырвона-бела-чырвонага колераў (у нашы дні гэты сцяг прызнаны дзяржаўным сцягам Латвійскай Рэспублікі). Гэта факт даказвае, што рэха нядаўняга паўстання К.Каліноўскага ўсё яшчэ жыло нават у суседняй з Беларуссю Латвіі, зафіксаваўшай у сваёй гістарычнай памяці ўжыванне тады Беларуссю свайго нацыянальнага сцяга.



**Пагоня.**
**Фрагмент надмагілля Ягайлы. XV ст.**

Далей лёс нашых нацыянальных сімвалаў даволі складаны. Па ўспамінах віднага дзеяча беларускага Адраджэння пачатку XX ст. Я.Ф.Сушынскага, герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг выкарыстоўваўся дэмакратычным беларускім студэнцтвам у Пецярбургу пры правядзенні культурна-асветніцкіх вечарын у 1909 – 1912 гг. Удзел у вечарынах прымаў і малады студэнт Я.Купала, які не раз выказваў надзею, што калі-небудзь Беларусь стане дзяржавай.

Па ўспамінах Я.Ф.Сушынскага, "Пагоня" і нацыянальны сцяг выкарыстоўваліся яшчэ ў канцы XIX ст. пецярбургскімі студэнтамі – нараджэнцамі Літвы і Беларусі – удзельнікамі нацыянальна-вызваленчага руху супраць расійскага самадзяржаўя. Да гэтай думкі схіляецца і вядомы беларускі гісторык М.С.Сташкевіч.

У 1916 г. герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг ужываўся беларускай арганізацыі "Сувязь незалежнай Беларусі", якая ставіла мэту барацьбы за незалежную народную рэспубліку.

Пасля кастрычніка 1917 г. на Ўсебеларускім кангрэсе была спроба прапаганды новага – чырвона-бела-блакітнага сцяга будучай Народнай Рэспублікі, аднак ідэя не прыжылася. Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух вярнуўся да старога сцяга. Па ўспамінах Я.Ф.Сушынскага, удзельніка падзей 25 сакавіка 1918 г., у момант абвяшчэння рэспублікі на авансцэну перад прэзідыумам сходу трыма генераламі (Аляксяеўскі, Кандратовіч і Каркотка) быў унесены бел-чырвона-белы сцяг. Кожны з генералаў станавіўся на калена, цалаваў палотнішча. Зала стаяла наэлектрызаваная і ўзбуджаная. Аркестр іграў "Марсельезу". Я.Купала, што прысутнічаў на ўрачыстасці ў якасці госця, закрыўшы твар абодвума далонямі, плакаў. Момант, што б зараз не гаварылі, быў гістарычны. Ідэя, якой жыў вялікі пясняр ды і ўвесь народ, увасаблялася ў рэальнасць...

...Пасля 1921 г. і Рыжскай дамовы паміж Польшчай і Савецкай Расіяй лёс Беларусі быў жорстка распалавінены. На землях Заходняй Беларусі, што была ўключана ў склад буржуазнай польскай дзяржавы, нацыянальна-вызваленчы і дэмакратычны рух вёўся пад нацыянальнай сімволікай. Яна вывешвалася ва ўсіх беларускіх школах і гімназіях, шырока выкарыстоўвалася на мітынгах працоўных, Таварыствам Беларускай Школы, беларускім студэнцтвам. Школьнікі Навагрудскай беларускай гімназіі падчас трохдзённай забастоўкі ў пад-трымку выключаных за "камуністычныя эксцэсы" вучняў Віленскай гімназіі хадзілі па гораду з "Пагоняй" і бел-чырвона-белым сцягам. Нацыянальныя сімвалы выкарыстоўваліся як эмблемы на галаўных уборах беларускіх школьнікаў (аколышы, какарды). У 1939 г. насельніцтва Заходняй Беларусі і Віленскага края сустракалі часці Чырвонай Арміі не толькі чырвонымі сцягамі.

Уся беларуская працоўная эміграцыя, што склалася з заходнебеларускіх выхадцаў да 1939 года, пражываючы ў розных частках света, выкарыстоўвала раней і выкарыстоўвае па сённяшні дзень старабеларускую нацыянальную сімволіку. Яна для яе ўвасабляла і ўвасабляе Радзіму-маці, дарагую Айчыну, мілую Беларусь. У якасці нацыянальнай яе выкарыстоўваюць і сягоння беларусы Польшчы. Не лічыцца з гэтым нельга...

... Народ наш падчас чарговых цяжкіх выпрабаванняў гісторыі захаваў свае духоўныя святыні, у поўнай меры праявіў якасці свайго нацыянальнага характара, якія за тысячагадовую гісторыю не змяніліся. Яны для Белай Русі і Савецкай Беларусі былі, ёсць і застануцца назаўсёды ўвасабленымі ў двух колерах белым і чырвоным. Белы гэта знак дабра, знак крынічнай вады, чысціні, высакароднага срэбра, знак непадуладнасці. Белы – гэта душа беларуса. Чырвоны – гэта знак жыватворнага агню, сімвал адвагі і ваяўнічасці, храбрасці, доблесці і справядлівай крыві, што праліта за Айчыну. Чырвоны – гэта гарачае сэрца беларуса. Паміж нацыянальнай сімво-лікай і любімымі колерамі народа існуе гістарычная і непарыўная сувязь. Нацыянальныя колеры, што прызнаваліся і прызнаюцца ўсім цывілізаваным светам, вызначаюцца не рашэннем інстытутам улады, а ўзятыя з тардыцый народа, яны жывуць у свядомасці нацыі і пагэтаму несмяротныя. Яны могуць памерці толькі з народам...

...Тыя, хто адмаўляе гэту сімволіку, глыбока абыякавыя да гісторыі народа, да гісторыі краіны і яе будучыні. Спектр гэтых "адмаўленцаў" выключна багаты: гэта тайныя і яўныя шавіністы, прыхільнікі "адзінай і непадзельнай Расіі"; спадкаемцы ўсіх масцей "вялікага і мудрага правадыра ўсіх часоў і народаў"; былыя супрацоўнікі вялікай дзяржавы НКУС, яго засценкаў і лагераў, якія прабываюць сёння ў вобразе не заўсёды "ціхіх пенсіянераў"; "правадыры" мясцовага, абласнога і рэспубліканскага маштаба і выпешчанае імі шматлікае племя дамарошчаных манкуртаў з іх разнавіднасцю "зверхінтэрнацыяналістаў", якім усё нацыянальнае "да высокага ліхтара". Яны роспачна не жадаюць, каб да народа вярнулася яго памяць, яго гісторыя, яго самасвядомасць. Каб вялікі еўрапейскі народ з тысячагадовай гісторыяй пачаў гаварыць ва ўвесь свой голас, каб беларусы, як пісаў вялікі Янка Купала, "сталі людзьмі звацца". І таму так страшны ім віцязь на белапенным кані з мячом у караючай дзясніцы – спрадвечны абаронца роднай Айчыны, абяздоленых удоў і сірат, рыцар справядлівасці і праўды; і таму так ачарняюць яны навыперадкі бялютка-алы сцяг нашай Памяці...

25 сакавіка - дзень БНР

*Праз цёмныя хмары на чуждай старонцы*
*Зірнула на нас цёпла-роднае сонцы,*
*І гоман пачуў я з радной стараны:*
*"Свабода калоціцца ў в нашэ ваконцэ.*
*За бацькаўшчыну ўсталі яе ўсе сыны!"*
*С.Булак-Балаховіч*

# Генерал Булак-Балаховіч

На Браслаўшчыне нарадзіўся адзін з актыўных удзельнікаў белагвардзейскага руху, пазней дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі, генерал С. Булак-Балаховіч. Постаць гэтага чалавека, якога ў афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі характарызавалі не інакш, як бандыт, мяцежнік, пагромшчык, крывавы генерал, надзвычай складаная і супярэчлівая. Яна адпавядае характару таго складанага і супярэчлівага часу, на які прыпала жыццё і дзейнасць Булак-Балаховіча і не павінна быць абмалявана нейкім адным колерам.

Станіслаў Булак-Балаховіч нарадзіўся 10.XI.1883 г. у мнагадзетнай каталіцкай сям'і сялянскага паходжання, якая ў той час жыла пры маёнтку Мейшты Відзскай воласці (зараз тэрыторыя Літвы). Шматлікія сваякі Булак-Балаховічаў пражывалі ў шэрагу вёсак і мястэчак Браслаўшчыны і Дзісненшчыны. Бацька Станіслава ўсведамляў сябе беларусам, маці – полькай. Пэўны час яны служылі пры маёнтку, а потым, сабраўшы трохі грошай, арэндавалі невялічкі маёнтак Стакапіева непадалёку ад Казянаў.

Адукацыю С.Булак-Балаховіч атрымаў у Нова-Аляксандраўску, потым у прыватнай польскай гімназіі ў Пецярбургу. Каб атрымаць прафесію, 4 гады праходзіў практычны курс пры маёнтку Броэль-Плятэраў у Бяльмонтах. Пачынаючы з 1902 г. стаў зарабляць на жыццё самастойна. У 1904-1914 гг. служыў адміністратарам маёнтка Гарадзец-Лужкі на Дзісеншчыне. У час рэвалюцыі 1905-1907 гадоў па справядлівасці ладзіў спрэчкі паміж землеўладальнікамі і сялянамі, за што атрымаў мянушку "бацька". Сярод сялян карыстаўся вялікім аўтарытэтам.

Па палітычных поглядах С.Булак-Балаховіч быў блізкі да левых эсэраў, з'яўляўся праціўнікам самаўладдзя. У жніўні 1914 г. Булак-Балаховіч добраахвотнікам адпраўляецца на фронт. Удзельнічаў у баявых дзеяннях непадалёку ад Дзвінска, набыў вядомасць не толькі сярод расійскіх войскаў, але і у супрацьстаячых германскіх часцях дзёрзкімі, удалымі партызанскімі рэйдамі па тылах ворага.

3 лютага 1918 г. знаходзіўся ў Чырвонай Арміі, быў камандзірам 3-га Петраградскага кавалерыйскага палка. У маі 1916 г. атрымаў прапанову ад Троцкага стаць генеральным інспектарам кавалерыі Чырвонай Арміі. Аднак Булак-Балаховіч не быў згодны з асноўнымі напрамкамі палітыкі бальшавікоў, асабліва ў адносінах да сялянства і са сваім палком перайшоў на бок Юдзеніча. У белагвардзейскіх войсках быў камандзірам асобнага атрада, узначальваў корпус, за выдатна праведзеныя аперацыі супраць Чырвонай Арміі атрымаў званне генерала. Часці С.Булак-Балаховіча вылучыліся жорсткасцю ў адносінах да мірнага насельніцтва, асабліва ў час прабывання ў Пскове.

У 1919 г. генерал сустракаецца з прадстаўнікам ваеннай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі К.Езавітавым і выказвае жаданне служыць Беларусі. У гэты час большасць атрада Балаховіча складалі беларусы, асабліва сярод салдат. Рашэнне камандзіра было сустрэта з энтузіязмам. 22.01.1920 г. часць Станіслава Булак-Балаховіча залічваецца ў склад войск БНР. У сакавіку 1920 г. яго байцы, апранутыя ў форму БНР адпраўляюцца ў наваколле Пінска.

Абстаноўка на Беларусі была вельмі складанай. Урад БНР не меў ні грошай, ні рэальнай улады. Краіна стала арэнай сутыкненняў войск Савецкай Расіі і Польшчы. С.Булак-Балаховіч уступае ў перагаворы з палякамі, маючы надзею, што Ю.Пілсудскі паспрыяе пабудове беларускай дзяржаўнасці. Давялося ісці на шматлікія кампрамісы. Булак-Балаховіч дабіўся, каб яму былі падпарадкаваны ўсе белагвардзейскія сілы Б.Савінкова, якія, аднак, змагаліся за аднаўленне адзінай і непадзельнай Расіі. Саюз з Савінковым Булак-Балаховіч разглядаў як часовы. У лістападзе 1920 г. генерал абвясціў аб стварэнні асобнай беларускай арміі, аб асноўнай мэце сваёй дзейнасці – стварэнне беларускай дзяржавы.

Разрозненыя, слаба абучаныя часці Балаховіча не маглі супрацістаяць моцы рэгулярных войск Чырвонай Арміі і адступілі на тэрыторыю кантралюемую палякамі, дзе былі інтэрніраваны. Разнародныя атрады пад агульным камандаваннем С.Булак-Балаховіча, якія дзейнічалі ў раёне Рагачова, Петрыкава, Мазыра пакінулі пасля сябе дрэнную славу за тэрарызацыю мясцовага насельніцтва, яўрэйскія пагромы.

У 20-30 гады Станіслаў Булак-Балаховіч жыў у Польшчы, займаўся дрэваапрацоўчым бізнесам, быў адным з арганізатараў барацьбы супраць партызанскага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі, пэўны час аддаваў грамадскай дзейнасці.

У 1939 годзе генерал Станіслаў Булак-Балаховіч загінуў пры абстрэле Варшавы гітлераўцамі. Абставіны яго смерці да гэтай пары не высветлены.

С.Булак-Балаховіч быў чалавекам авантурнага складу характара. Адным з любімых яго герояў быў гогалеўскі Тарас Бульба і гэта прыкметна па імкненню Балаховіча да атаманшчыны і прыгод. Многія абвінавачваюць генерала ў беспрынцыповасці і гатоўнасці за грошы служыць любой ідэі. Аднак больш дэталёвае знаёмства з абставінамі ягожыцця і дзейнасці дазваляюць меркаваць, што зварот Булак-Балаховіча да беларускай ідэі не быў выпадковым і прадыктаваным нейкімі меркантыльнымі інтарэсамі. Яго здольнасці, ваенны талент маглі б прынесці немалую карысць Бацькаўшчыне. Аднак у тыя трагічныя для Бедарусі часы яны былі змарнаваны дарэмна.

***Кастусь Шыдлоўскі**, навуковы супрацоўнік Браслаўскага гістарычна-краязнаўчага музея*

ЛІСТОЎКА БУЛАК-БАЛАХОВІЧА ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА. Кастрычнік 1920 г.

**"Беларускі народзе! Пасля многапакутных вякоў няволі і здзеку збліжаецца найвялікшы гістарычны момант у нашым гаротным жыцці. Адбудова дарагой нашай Бацькаўшчыны, адраджэнне нашыя старыя хвалы мінуўшчыны. Дык гей беларускі народзе! Усе як адзін у шэрагі нашай арміі пад штандар нашага правадыра бацькі Булак-Балаховіча. Атзавісь на магутны кліч сыноў сваёй Бацькаўшчыны. Ачнісь Беларусь..."**

*Друкуецца паводле газеты "Навіны беларускай акадэміі", 11 чэрвеня 1993 г.*

**Старшыні Рады Народных Міністраў БНР:**

**З'яўляючыся грамадзянінам БНР, лічу патрэбным, каб маё войска было скарыстана для абароны цэльнасці і недзялімасці маёй Бацькаўшчыны, а таму прапаную майму Ураду залічыць мяне і мой атрад на Беларускую службу. Генерал-маёр Булак-Балаховіч.**

*Друкуецца паводле газеты "Грунвальд", № 2, 1990 г.*

25 сакавіка - дзень БНР

# СЛОВА ПРА ШЧЫРАГА БЕЛАРУСА

*Аўген Аніська, менавіта Аўген, так ён сам сябе называў, бо імя Яўген запазычанае, нарадзіўся ў 1910 годзе ў Санкт-Пецярбургу, дзе яго бацька працаваў настаўнікам. Язэп Аніська, высокаадукаваны і інтэлігентны чалавек, прывіў яшчэ маломў Аўгену прагу да кніг і ведаў, а таксама нацыянальную самасвядомасць, бо ўдзельнічаў у беларускім руху сталіцы, быў знаёмы з Янкам Купалам і Браніславам Эпімахам-Шыпілам. На жаль, ён рана памёр, і маці пераехала ў Шалціны. Дарэчы, Канстанцыя Аніська была з роду Федуковічаў. Яе пляменніца Аліна замужам за вядомым беларускім дзеячам Аўстраліі Язэпам Малецкім.*

*Каб выгадаваць траіх дзяцей, Канстанцыі давялося выйсці замуж за багатага ўдаўца Каралёнка. Айчым быў абмежаваным чалавекам і не разумеў ні вартасці адукацыі, ні каштоўнасці кніг, тым больш яму не хапала ўсведамлення беларускасці. Не аднойчы замахваўся ён качаргой на "Пагоню", якую павесіў Аўген на самым бачным месцы. Пасля атрымання пачатковай адукацыі ў Мілашове хлопец вучыцца ў Віленскай беларускай гімназіі, знаёміцца з дзеячамі беларускага нацы-янальнага руху ў Вільні. Але пры цяжкім матэрыяльным становішчы вымушаны быў заканчваць вучобу ў Друйскай гімназіі. Абедзьве навучаль-ныя ўстановы з'ўляліся сапраўднымі асяродкамі беларускасці ў міжваеннай Польшчы. Гэтаму спрыялі святары Я.Германовіч, А.Цікота, Ф.Абрантовіч. Не выпадкова з Друйскай гімназіі выйшлі такія выдатныя дзеячы, як Я.Малецкі,Ч.Сіповіч, П.Міранoвіч, В.Жаўняровм і іншыя. У гэтай слаўнай кагорце пачэснае месца займае Аўген Акіська. Ён працягваў вучыцца ў Вільні, але часта наведвацца на радзіму, дзе актыўна працуе сярод вясковай моладзі, каб яна захавала нацыянальныя прыкметы ва ўмовах настойлівай паланізацыі.*

*Атрымаўшы адукацыю, Аўген стаў актыўным карэспандэнтам розных выданняў. А неўзабаве ўзначаліў часопіс "Золак", які пачаў выдавацца ў Вільні ў 1933 годзе з падзагалоўкам "Орган маладой бела-рускай сацыялістычнай думкі". Па яго зместу можна меркаваць, што ў гэты час Аўген Аніська прытрымліваўся пазіцыі замежнай групы партыі беларускіх эсэраў. У часопісе рэдакцыя крытыкавала практыку нацыянальна-вызваленчага руху, ускрывала прычыны яго крызісу. Часопіс крытыкаваў марксізм і фашызм адначасова, дыктатуру пралетарыяту і капіталістычную сістэму. Шмат старонак адводзілася беларускай нацыянальна-вызваленчай барацьбе: абвяшчэнню БНР, Слуцкаму паўстанню, часопісу "Гоман", быў артыкул пра Ігната Грынявіцкага, забойцу Аляксандра II. Часопіс даваў шырокую панараму падзей у свеце, рабіў агляд беларускай перыёдыкі, пісаў пра новыя накірункі сацыялістычнай думкі на Захадзе.*

*Падчас другой сусветнай вайны Аніська пачынае працаваць настаўнікам, і яго дзейнасць на гэтай ніве працягваецца амаль паўстагоддзя. Усюды ён актыўна выхоўвае беларускі патрыятызм, высокую грамадзянскую пазіцыю. Вось што апавядаў пра свайго настаўніка былы вучань Генадзь Фартунатавіч Гайлевіч у 1993 годзе: "Добра запомніў урокі Аніські. Па-першае, нягледзячы, што праходзілі ва ўмовах акупацыйнага рэжыму, ніколі не згадвалася фашысцкая ўлада, а ўрок пачынаўся з прывітання вучняў — жыве Беларусь і крэпне! Асабліва цікавыя былі апавяданні пра беларускую і мясцовую гісторыю. Тады ўпершыню даведаўся пра славутага земляка Вацлава Ластоўскага. А яго расказы пра мясцовыя паданні дагэтуль памятаю. Запомнілася вывучэнне беларускай літаратуры па падручніку М.Гарэцкага".*

*Пасля Аўгена Аніську запрасілі ў славутую беларускую гімназію ў Індры (Латвія). Адначасова актыўна ўдзельнічаў у рабоце Беларускага аддзела Літоўскага Чырвонага Крыжа. Ёсць і яго заслуга ў тым, што дзесяткі беларусаў уратаваліся ад смерці ў нямецкіх катоўнях. Ды толькі яго дзейнасць на карысць народа, выхаванне нацыянальнага гонару былі пасля вайны пастаўлены яму ў віну, асуджаны. Вярнуцца на радзіму ён не мог. Працаваў у Міцкунах у Латвіі, а ў 1957 годзе пераехаў у Польшчу на Беласточчыну, дзе тады было больш 300 тысяч беларусаў, спадзяючыся і там служыць Беларусі. Працуе ў Ягуштове ля Бельска-Падляскага настаўнікам беларускай мовы. Дзякуючы Аўгену Аніську школа стала сапраўдным культурным цэнтрам: ён стварыў шахматны гурток, ансамбль мандалiністаў, дэкламатарскі гурток беларускай паэзіі і літаратуры, ладзіў сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, вёў гурток фотааматараў.*

*А. Аніська памёр у 1996 годзе ў Шчацінку, дзе дажывае свой век яго сястра Алена.*

*Не аднойчы ў 70-я гады Аўген Аніська наведваў Мёршчыну, сустракаўся з былымі сябрамі і аднавяскоўцамі. Тут ён працягваў вывучэнне сваёй малой радзімы, збіраў паданні, легенды, фальклор. Асабліва зацікавіўся дубам у Шалцінах, пад якім, нібыта, сядзеў Налалеон. А яшчэ, як успамінае Людвік Марцілёнак, ён на аснове народных рэцэптаў складаў кнігу самалячэння. Напэўна, гэта і дазволіла яму, мешаму не вельмі моцнае здароўе, адолець 86 гадоў.*

*А галоўнае, што пасля смерці цікавасць да асобы Аўгена Аніські не згасла. Адна з прычын таго — знаходка ў яго пакоі ў школе Ягуштова, дзе ён самотна жыў, вялікага архіва з фотаздымкаў. Яны леглі ў аснову выставы "З альбома Яўгена Аніські". Частка адлюстраванняў датычыла самой асобы Аўгена Аніські: «Дзяцінства», «Міцкуны». «Аўген Аніська і брат Браніслаў», «Золак», «Віленская беларуская гімназія». Зробленыя ім самім здымкі сведчаць, што гэты нацыянальны дзеяч быў сапраўдным фатографам. Ён адлюстраваў і збярог краязнаўчыя і грамадскія вобразы. На выстаўцы дэманстраваліся здымкі з паездкі ў Беларусь «Падзвінне 1972-1974», польскія здымкі. Многія з іх каштоўныя тым, што паказваюць тыя аб'екты, якія да гэтага часу не захаваліся.*

*Выстава з'явілася сапраўдным святам ушанавання памяці нашага земляка. Пры яе адкрыцці выступалі яго вучні і паплечнікі. Усе яны падкрэслівалі, што Аўген Аніська сваё жыццё прысвяціў адной мэце — вызваленню нацыянальнага гонару, быць сапраўдным беларусам. І за гэта ён цярпеў як на сваёй радзіме, так і ў Польшчы, дзе яшчэ актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці Беларускага гісторыка-культурнага таварыства.*

В.Ермалёнак, настаўнік СШ№3 г. Мёры, кіраўнік гуртка "Арганаўты мінулага"

*25 сакавіка - дзень БНР*

# ЯНА КАПУСТА. ПРАЦЯГ ЗНАЁМСТВА

Я веру ў моц Слова.

Бо кожны чалавек пачынаецца са слова – імя, якое даюць яму пры нараджэньні. І напачатку таго, што зьдзейснілі да нас, – было слова. І кожная мара, кожнае памкненьне нараджаюцца ў слове...

Жыцьцё адкрываецца словам маці. Сьвет спазнаецца словам каханьне. А слова трэцяе – сваю незгасальную зорку на ўвесь шлях – кожны выбірае сам. Для мяне гэтае слова – Радзіма; яно запаліла мае вершы. Хай пакуль яшчэ кволыя. Я маю спадзеў, што калісьці й яны стануць моцнымі.



## Беларусі

Птушка,
з куляю ў сэрцы,
З куляю назаўсёды.
Але ад яе –
не памерці,
А прагнуць,
а трызьніць свабоды,
А рукі цягнуць да Цябе,
а ціха маліцца
Ў нябачнай журбе
усё за Цябе.
Птушка,
з ранаю ў сэрцы,
З ранаю назаўсёды.
з глыбокай,
Глыбокай ранай
Быць да крыві адданай.
Ісьці.

* * *

За лёдавым мурам сінее
жывая, жывая
рака.
За рэчкаю гэтай віднее...
і цягнецца
ч'ясьці рука
Да нас, скатаваных сабою,
указам,
фіцьюйкай маной,
А вобразамі агероў
прысуджаных на
спакой,
Зьнявечаных паслухмянай
гатоўнасьцю
існаваць
Зь мяжой пасярод нязнання
й каменьне ў
неба кідаць.
За лёдавым мурам – воля.
у захадзе
крывянее
Пад сьцягам нясьвежай солі
Нацыя.

* * *

Мы ўсе – у коле безвыходнасьці.
а я шукаю выйсьце,
Таму што безвыходнасьць
натхняе на развагі.




Памятная картка, выпушчаная да гадавіны БНР Браслаўскай арганізацыяй БНФ. Мастак В.Зінкевіч.

На адвароце ўжыты словы з верша паэта, нараджэнца Браслаўшчыны Уладзіміра Пецюкевіча (Менск)

Мы, беларусы, белым абрусам
Сцелем дарогу долі сваёй,
Каб галавою Сцяг і Пагоня -
Крылы і сонца
Волі свят ой.

Мне вельмі сумна, белы бусел,
мне за старонку сэрца жме.
Пятля на шыі, вузел, вузел
усё бліжэй да горла мкне.

І разьдзіраюць, разьдзіраюць,
і рэжуць, рэжуць, да крыві,
А потым лёгка спавядаюць
свае нязмольныя грахі.

І так проць век, а ўсё пануюць –
не нажаруцца аніяк.
Каго яшчэ нам каранююць?
І хто наступны наш сваяк?

Ах, мілы, родны белы бусел,
ты ахіні ўсю крылом,
Калі ляціш над Беларусяй.

* * *

Растальля няпэўнасьці
сьвядомасьці маёй
Паснулі, адышлі ў кут.
і я тужліва,
Разам зь цішынёй
гляджу ў мінулае –
У тое, што не адбылося.

– Браточкі! Родныя!
на згубу вы сваю
Зацялі голас!
Уставайма разам,
Родныя, уставайма!..
Стагодзьдзямі
захутаная постаць...
Сучаснасьцю
скамечаныя дні...

* * *

У тумане, у сьнезе, у завірусе
па дарогах,
Размытых тугой,
пад няяркім сонейкам
У скрусе
нам за волю заўжды –
Галавой.

Недзе крык,
недзе стрэл.
Недзе здань землятруса.
Мне здалося:
Далёка, ня тут.
Мне прызначана Богам
Быць беларускай,
гэта мой
і адзіны прысуд.
І праз шрамы
прыгоньніцкіх ловаў
Я разгледзела
ў сьнежнай крыві
Васільковае сіняе Слова.
Жыві.

* * *

Ты ведаеш,
дзе вольны край
У прамянёх,
у дождажах
І сьвітанках
адной свабодай
Дыхае ад ранку?

Ты ведаеш,
дзе лепшы край
У збажыне,
у яблынях
І кветцы
адным прыбыткам
Хваліцца ў сьвеце?

Ты ведаеш
шчасьлівы край,
Усьмешкавы,
сур'ёзны
І сузорны,
дзе захапленьнем
Поўніцца прастора?

Ты ведаеш,
што гэта Беларусь...
Такою будзе?..
Веру.

*25 сакавіка - дзень БНР*



# ЗЯНОН ЯКУЦЬ

Нарадзіўся 22.01.1894 у засценку Скурцішкі Новааляксандраўскага павета Ковенскай губ. Паходзіў з сялянскай сям'і: бацькі Ян і Юзэфа (з дому Гасянцоў) Якуці. У 1909 – 1912 гг. вучыўся ў Відзаўскім гарадскім 4-класным вучылішчы, дзе скончыў поўны курс навучання. Паспяхова здаў экзамен на званне аптэкарскага вучня ў снежні 1912 г. і атрымаў пасведчанне з Пецярбургскай навучальнай акругі. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Прымаў удзел у дзейнасці беларускага культурна-асветнага гуртка студэнтаў-семінарыстаў. Пасвячоны ў святары ў 1919 г. З беларускім нацыянальна-рэлігійным рухам звязаны з часоў вучобы ў Вільні. У 1920 – 1924 гг. выконваў святарскія абавязкі ў парафіі Шаркоўшчына Дзісенскага дэканата. Ад пачатку душпастырскай дзейнасці свядома і паслядоўна праводзіў беларусізацыю рымска-каталіцкай царквы ў парафіях з беларускім насельніцтвам. Звяртаўся да вернікаў з казаннямі і праводзіў катэхізацыю дзяцей на беларускай мове. Памёр 03.01.1924г. у Шаркоўшчыне. Пахаваны на мясцовых парафіяльных могілках.

Напрыканцы 20-х гадоў, акрэсліваючы месца і ролю З.Якуця ў беларускім хрысціянскім руху XX ст., адзін з яго лідэраў, А.Станкевіч, напісаў: "Калі ўспамінаць далей аб кс.З.Якуцю як аб беларусу, дык трэба сказаць, што быў ён ідэальным прыкладам сваім калегам ксяндзам, як нязвычайна прыгожа зыходзяцца з сабой між беларускага народу духоўная пастырскасць і беларускасць. Кс.З.Якуць быў тыповы ксёндз-беларус. Ён глыбока разумеў важнасць беларускага адраджэння, цаніў ягоі прыкладаў да роднай справы ўсе свае сілы"...

## З казаньня ксяндза, пісьменьніка Язэпа Германовіча на пахаваньні З.Якуця. Шаркоўшчына. 1924 г.

...Так і мы ніколі не забудзем свайго дарагога прыяцеля, духоўнага Айца! Ня толькі нам важна бачыць тыя вонкавыя знакі яго працы ў касьцеле, але вы будзеце адчуваць яго працу для вашых душаў: ня толькі, што прыгожа гаварыў вам навукі; але тое, што ўкладаў сваю душу ў сваю працу – аж ня стрымала ягонае цела і скрушылася ад надмернай працы, і памёр, маючы 29 гадоў веку, што яшчэ доўга мог і павінен быў жыць і працаваць на Божую хвалу...

Але прыгожая лілія коратка цьвіце і наймілейшы салавей пяе ня доўга. Залатая пшаніца першая жнецца. Так і людзі. Колькі-ж маемо сьвятых, што жылі вельмі коратка, а дайшлі да высокай сьвятасьці. Сам Хрыстос жыў толькі 33 гады.

Так і наш а.Зэнон Якуць адыходзіць, маючы толькі 29 гадоў: аднак ён дасьпеў перад Богам упаўнаце. Што з таго, калі хто жыве і доўгі век дый заслугаў у яго менш як у малога дзіцяці, а грахоў бесканечная маса?..

І так разьвітаемся з нашым дарагім прыяцелям – аж да зьмёртвых устаньня!..

Друкуецца па: Ю.Гарбінскі. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст. Мінск-Мюнхен. 1999 г.

*Куток калекцыянера*













Гэтыя маркі, паводле меркаванняў спецыялістаў, выдадзеныя да 1921 г. і не былі прызначаны для паштовага абарачэння. Дакладна невядома, дзеля якіх мэтаў іх выпусцілі, хто быў мастак і якім накладам іх надрукавалі. Гэтая серыя з"яўляецца выпускам асобнага атраду Беларускага армейскага корпуса (выпускам Булак-Балаховіча). На марках - адзін і той жа малюнак. Каталогі апісваюць яго як «нацыянальныя беларускія тыпы». Маркі маюць надпіс «Асобны атрад Б.Н.Р.», намінал - у рублях і капейках.

З фондаў Браслаўскага музейнага аб"яднання

*Гартаючы старыя газеты*

**Тры гурткі (Цяцеркі, Брасл. павет).**

**Тады, калі ў іншых вёсках няма ніводнага гуртка, у Цяцерках іх ёсць аж тры. Першы, гэта гурток Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры. Гэты гурток ставіць прадстаўленні, выпісывае газеты і кніжкі на беларускай мове, вучыць беларускіх песняў і скокаў. За дзевяць нядзель мясаеду паставіў ён два прадстаўленні: "Пан Міністар" і "Сурдут і Сярмяга". Абедзьве пьесы былі адыграны вельмі добра. Публікі было шмат, усе былі вельмі задаволены, плату за ўваход не бралі.**

**Другі гурток гэта Сялянскага Саюзу. Памагае ён у працы інстытутскаму гуртку. У гэты гурток зацягнуліся пераважна сталейшыя сяляне, якія цікавяцца газетамі і кніжкамі.**

**Але ёсць вось і трэці "гурток", які таксаа працуе. Як толькі падойдзе вечар, сабіраюцца сябры гэтага "гуртка" за карты, у дом Цыпрыяна Ів. І пачынаецца азарт. Спярша іграюць у папяросы, а пасля пераходзяць на грошы, ды так засядаюцца, што сядзяць аж да самай раніцы. Калі першыя два гурткі вядуць вельмі карысную працу, дык трэці гурток вельмі шкодную. Трэба каб першыя гурткі пастараліся зліквідаваць гэты трэці.**

**А.П.**

**Сялянская Ніва. 1927 г. №30**

* * *

**Беларуская прыватная школа ў Шаўлянах была і ёсць соллю ў воку ўсіх тых, хто змагаецца з беларускім школьніцтвам. Але ж доўгі час не маглі ніяк прычапіцца. Нарэшце ўздумаліся тэрарызаваць вучыцельку Булыгу, а дзеля гэтага арыштавалі яе. Вядома, як усюды і заўсёды гэта робіцца – прычапілі антыдзяржаўную працу, а праца яе выяўлялася толькі ў тым, што яна вучыла беларускіх дзетак, у беларускай школе, на роднай мове.**

**Сялянская Ніва. 1927 г. №91**

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./факс 21-4-28
E-mail: bkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» (Наваполацк) пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»